# БЕЛАРУС НА ЧУЖЫНЕ

BELARUSIAN ABROAD

BIEŁARUS NA ČUŽYNIE

Беларускі штомесячнік ў Лёндане. Заснаваны ў 1947 г. Адноўлены ў 2009 г.

травень 2010 №6 (48)





## НАВІНЫ

### Айцец Аляксандар Надсан наведаў Беларусь

Апостальскі візытатар для беларусаў замежжа а. Аляксандар Надсан наведаў Беларусь.

Візыт а. Аляксандра быў сярод іншага прымеркаваны да гадавіны Чарнобыльскай катастрофы. Ад 1989 году ён зьяўляецца старшынём Беларускага камітэту дапамогі ахвярам радыяцыі ў Вялікай Брытаніі.

*«Наша дапамога была патрэбна. Займаліся гэтым гадоў пяць-шэсць: з 1990-га аж пакуль ваш прэзідэнт не прыйшоў і не забараніў вывазіць дзяцей. Мы мелі багатыя кантакты са шпіталямі, дзіцячымі дамамі. А потым улады Беларусі пачалі ставіць умовы: прывязіце тое і тое, а мы будзем самі размяркоўваць. Прыйшлося спыніць праекты падтрымкі: мы ж не будзем карміць вашы ўлады. І так атрымалася са многімі. Немцы прывозяць дапамогу, а груз па два тыдні трымаюць на беларускай мяжы. Ну, яны раз пастаялі, другі, а на трэці павезлі ў Румынію.»*

Чытайце інтэрвію а. Аляксандра парталу TUT.by: http://news.tut.by/society/168227.html

*«Зьменаў вялікіх ад майго апошняга прыезду я ня ўбачыў. Нейкая апатыя ў грамадзтве. Мне, як беларусу, балюча, што не чуваць беларускай мовы і я не адчуў тут нейкае нянавісьці, але папросту абыякавасьць. Многія маладыя, на жаль, ужо не разумеюць беларускай мовы. Глядзяць на цябе... Гэта сумна...»*

Інтэрвію а. Аляксандра беларускай службе Радыё Свабода: http://tinyurl.com/38zpvvc

Інтэрвію “Польскаму радыё для замежжа”: http://kamunikat.org/8440.html

### Кніга Н. Гардзіенкі «Беларусы ў Вялікабрытаніі» прэзэнтаваная ў Менску

14 траўня адбылася менская прэзэнтацыя кнігі Натальлі Гардзіенкі «Беларусы ў Вялікабрытаніі», прысьвечанай гісторыі беларуска-брытанскіх кантактаў і беларускай дыяспары на туманным альбіёне ад сярэднявечча да сёньняшняга дня. «Беларусы ў Вялікабрытаніі» — першая агульная даследчая праца, прысвечаная розным аспектам беларускай прысутнасці ў гэтай краіне.

На прэзэнтацыі прысутнічалі выбітныя беларускія навукоўцы Захар Шыбека і Адам Мальдзіс, прадстаўнікі ЗБС «Бацькаўшчына» і міністэрства культуры.

// http://www.zbsb.org

Чытайце інтэрвію з аўтаркай кнігі ў газэце “Наша ніва”:

http://nn.by/index.php?c=ar&i=37697

## АНОНСЫ ПАДЗЕЯЎ

### Зьезд ЗБВБ

Калі: 19 чэрвеня 2010 г., пачатак а 14:00

Дзе: 52 Penn Road, N7 9RE

Чарговы зьезд Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі адбудзецца ў суботу, 19 чэрвеня, у Беларускім доме на Пэн Роўд.

## АНОНСЫ ПАДЗЕЯЎ (працяг)

### Паэтычна-музычная імпрэза ад АБТ

Калі: 12 чэрвеня 2010 г., пачатак а 14:00

Дзе: Ukrainian Institute, 79 Holland Park, London W11

Англа-беларускае таварыства запрашае на паэтычна-музычную імпрэзу памяці Веры Рыч. Прагучаць беларускія, украінскія і расейскія песьні ў выкананьні Браяна Бэнэта, былога амбасадара Вялікабрытаніі ў Беларусі. Таксама ў праграме беларускія вершы ў выкананьні Караліны Мацкевіч, пераклады беларускай паэзіі ад Веры Рыч у выкананьні гурта Manifold Voices.

### Купальле ў Лёндане

Калі: 26 чэрвеня 2010 г., пачатак а 17:00 (папярэдне)

Дзе: Беларускі рэлігійна-культурны цэнтар, 39 Holden Road, London N12 8HS

Напрыканцы чэрвеня ў Лёндане па традыцыі адбудзецца сьвяткаваньне Купальля. У праграме – народныя сьпевы і танцы. Пажадана па магчымасьці апранаць беларускае нацыянальнае адзеньне. Перад сьвяткаваньнем адбудзецца невялікая талака па добраўладкаваньні двара Беларускага цэнтра.
Калі ласка, сачыце за далейшымі паведамленьнямі.

## АБВЕСТКІ

### Беларускія набажэнствы

Беларускія грэка-каталіцкія набажэнствы адбываюцца ў Беларускім рэлігійна-культурным цэнтры ў нядзелю – а 10:30 раніцы і штодня а 8:00 і 18:00. Па заканчэньні нядзельнага набажэнства – невялікае беларускае чаепіцьце. Усе жадаючыя сардэчна запрашаюцца.

Беларускія праваслаўныя набажэнствы адбываюцца па папярэдняй дамоўленасьці па адрасе Holy Innocents' Church, Paddenswick Road, London W6 0UB (м. Ravenscourt Park). Кантакт: 020 76099982 (сп-ня Алена Сенька).

### Шукаецца рэгент для беларускага хору

Існуе ініцыятыва з прыкладна шасьці чалавек стварыць у Лёндане беларускі хор. Шукаем адзінадумцаў і чалавека з музычнай адукацыяй, які мог бы быць кіраўніком хору. Просім кантактаваць з рэдакцыяй **БНЧ**.

## КАРЫСНЫЯ РЭСУРСЫ

belarusians.co.uk – "Беларусы ў Вялікабрытаніі", інфармацыйны блёг

skaryna.org - Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лёндане

pubb.org.uk – Прафэсійная асацыяцыя беларусаў Брытаніі (ПАББ)

ukbel.co.uk - Англа-беларускае таварыства

groups.google.com/group/Belondon - Рассылка для беларусаў у Лёндане

community.livejournal.com/belorusy_uk - Суполка брытанскіх беларусаў у ЖЖ

belarusdigest.com - Belarus Digest, дайджэст беларускіх навінаў у міжнароднай прэсе, вядзецца беларусамі зь Лёндану і ЗША

Суполкі на Facebook: *Anglo-Belarusian Society, Belarusians in the UK*

Суполка на Вконтакте.ru: *Belarusians in the UK ‡ Беларусы ў Вялікабрытаніі* (vkontakte.ru/club14078415 )

**РЭДАКЦЫЯ**
Алесь Чайчыц
Яраслаў Крывой
а. Сяргей Стасевіч
bnc@bielar.us

Ілюстрацыя: вокладка кнігі Н. Гардзіенкі "Беларусы ў Вялікабрытаніі"